


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 1 (26) СТУДЗЕНЬ 2004 г.

# КАЛЕНДАРЫ. ВАРТАВЫЯ ЧАСУ

Што такое каляндар? Усе ведаюць, што гэта выданне, у якім змешчаны пералік месяцаў, дзён, адзначаны святы, астралагічныя звесткі. Вельмі часта ў каляндарах друкуюцца гістарычныя, статыстычныя звесткі, разнастайныя парады. Назва "каляндар" паходзіць ад лацінскага calendarium – літаральна *пазыковая кніжка.* У Старажытным Рыме даўжнік плаціў працэнты ў першы дзень кожнага месяца, гэта значыць у календы.

Календары бываюць перакідныя, адрыўныя, настольныя, насценныя, сувенірныя. Шырока распаўсюджаны маленькія кішэнныя каляндарыкі. Найбольш старажытным каляндаром з'яўляецца рымскі календар 354 г.н.э.

Вытокі бела-рускага друкаванага календара ў "Пасхаліі" – заключнай частцы "Малой падарожнай кніжкі" Францішка Скарыны надрукаванай каля 1522 г. У гэтым выданні беларускі першадрукар і асветнік змясціў царкоўна-астралагічны каляндар на 1523-43 гады. З таго часу ў Беларусі падрыхтавны і выдадзены тысячы календароў. У калекцыі Браслаўскага музейнага аб'яднання ёсць беларускі каляндар за 1916 год, беларускі насценны каляндар на 1943 г., надрукаваны ў Браслаўскай друкарні і іншыя. Ёсць календары іншых краін: Польшчы, Расіі, Літвы, Украіны. Яны экспанаваліся на асобнай выставе.




Найбольшую патрэбу ў календарах людзі адчуваюць накодадні падыходзячага году. У лістападзе-снежні каледары розных форм і зместу становяцца адным з самых хадавых тавараў любой кнігарні.

У 2003 г. Браслаўскі цэнтр дзіцячай творчасці правёў цікавую акцыю-конкурс на ўкладанне календароў памятных дат з гісторыі Браслаўшчыны. Удзельнікі конкурса павінны былі вылучыць найбольш адметныя на іх погляд юбілейныя даты і прыдумаць форму для свайго календара.

Вынікі конкурсу былі падведзены пад час калядных святаў. Паступіла 19 календароў з 18 школ раёна. Былі календары ў выглядзе альбомаў, плакатаў, табліц, перакідныя.

Найлепшымі прызнаны дзве працы: Тамары Алексій з Браслаўскай СШ№1 (кіраўнік М.М.Кахановіч) і краязнаўцаў гуртка "Зямляне" Грытунскай БШ (кіраўнік А.Б.Кажанеўская). У гэтых каляндарах прадстаўлена ўся Браслаўшчына. Удзельнікам удалося вылучыць шмат цікавых юбілейных дат. Пераможцы будуць прадстаўляць раён на абласным аглядзе-конкурсе.

Гэты нумар "Павета" аддадзены ўдзельнікам конкурса. На старонках выдання чытач пазнаёміцца з найбольш значнымі і цікавымі датамі, якія вылучылі краязнаўцы, прачытае цікавыя матэрыялы.

Такім чынам – юбілейныя даты 2004 г. вачыма школьнікаў.

# ВЕСТКІ

Адзначыла 50-годдзе раённая дзіцячая бібліятэка. Створаная ў 1953 г., яна на момант пачатку працы мела 675 экзэмпляраў кніг. Цяпер фонд бібліятэкі – 24 тысячы тамоў. Бібліятэку наведваюць 2400 чытачоў.

❒ ❒ ❒

Спецыяльнай прэміяй прэзідэнта Беларусі адзначана праца Браслаўскага музейнага аб'яднання. Як адзначана ў распараджэнні – за стварэнне музейнага комплекса, дасягненні ў навукова-даследчай дзейнасці ў галіне краязнаўства.

Браслаўскае музейнае аб'яднанне ўключае зараз тры музейныя экспазіцыі: гісторыка-краязнаўчую, рамёстваў і "Заездны двор". Вядзецца праца над стварэннем экспазіцыі "Гісторыя земляробства і млынарства Браслаўшчыны".

Музейнае аб'яднанне аказвае дзейсны ўплыў на краязнаўчы рух свайго раёна, апекваецца краязнаўчым таварыствам імя О.Гедэмана, аказвае істотную дапамогу школьнаму краязнаўству. Сумесна з грамадскімі арганізацыямі рэалізуецца некалькі выдавецкіх ініцыятыў, дзейнічае клуб аматараў жывой археалогіі.

❒ ❒ ❒

Пачалася перарэгістрацыя рэлігійных абшчын Браслаўшчыны. Першымі падалі дакументы праваслаўныя абшчыны Браслава, Замошша, Іказні. Усяго на Браслаўшчыне дзейнічае 38 абшчын. У асноўным гэта каталіцкія, праваслаўныя і стараверскія абшчыны, ёсць адна мусульманская і некалькі пратэстанцкіх.

❒ ❒ ❒

У Браслаўскай раённай бібліятэцы прайшла прэзентацыя кнігі "Браслаўшчына: прырода і людзі", якая з'явілася на свет, дзякуючы супольнай працы музейнага аб'яднання і раённай інспекцыі па ахове навакольнага асяроддзя. Мінскае выдавецтва "Рыфтур" выпусціла кнігу ў паменшаным сувенірным варыянце. Выданне будзе размеркавана па бібліятэках, школах раёна. Пэўную колькасць атрымаюць іншыя ўстановы рэгіёна.

# КАЛЯНДАР ЮБІЛЕЙНЫХ ДАТ НА 2004 г.

**770 гадоў таму каля возера Дрысвяты адбылася сутычка паміж войскамі Вялікага княства Літоўскага і крыжакаў.**

✧ ✧ ✧

**760 гадоў таму пад Браславам адбылася бітва паміж Міндоўгам і яго сынамі Таўцівілам і Вікінтам.**



**630 гадоў таму у Хроніцы Г.Вартберга згаданы Новы замак (паводле некаторых меркаванняў – Друя).**

✧ ✧ ✧

**500 гадоў таму вялікі князь Аляксандр дазволіў І.Сапегу пабудаваць замак і заснаваць горад над возерам Іказнь.**

✧ ✧ ✧

**490 гадоў таму ўпершыню згадана вёска Богіна.**

✧ ✧ ✧

**490 гадоў таму заснаваны Дрысвяцкі касцёл.**

✧ ✧ ✧

**480 гадоў таму ўпершыню згадана вёска Замошша.**

✧ ✧ ✧

**475 гадоў таму ўпершыню згадана вёска Пагошча.**

✧ ✧ ✧

**450 гадоў таму складзена першае апісанне Браслава.**

✧ ✧ ✧

**445 гадоў таму вялікі князь Жыгімонт Аўгуст распарадзіўся перанесці Браслаў у больш зручнае месца.**

✧ ✧ ✧

**425 гадоў таму праз Браслаўшчыну праязджаў вялікі князь і кароль Стэфан Баторы, які наведаў Друю, Браслаў.**

✧ ✧ ✧

**355 гадоў таму складзена адзінае апісанне Браслаўскага замка.**

✧ ✧ ✧

**350 гадоў таму Друя захоплена маскоўскімі войскамі. Ваяводам горада быў прызначаны вядомы дзяржаўны дзеяч А.Ардын-Нашчокін.**

✧ ✧ ✧

**350 гадоў таму маскоўскімі войскамі разбураны Ікazненскі замак.**

**210 гадоў таму паплечнік Тадэвуша Касцюшкі Тамаш Ваўжэцкі пачаў паўстанне на тэрыторыі Браслаўшчыны.**

✧ ✧ ✧

**210 гадоў таму адбыўся бой паміж паўстанцамі і карнікамі на вуліцах Браслава пад час якога мястэчка згарэла.**

✧ ✧ ✧

**205 гадоў таму нарадзіўся вядомы мастак Ян Траяноўскі, які апошнія гады жыцця правёў на Браслаўшчыне.**

✧ ✧ ✧

**200 гадоў таму была пабудавана капліца ў маёнтку Завер'е.**

✧ ✧ ✧

**185 гадоў таму ў Відзах нарадзіўся педагог, мовазнаўца Ян Паплонскі.**

✧ ✧ ✧

**180 гадоў таму пачалося ўзвядзенне першага мураванага касцёла ў Браславе.**

**130 гадоў таму ў Друі нарадзіўся вядомы гісторык Уладзімір Беняшэвіч.**

✧ ✧ ✧

**105 гадоў таму была заснавана школа ў Мяжанах.**

✧ ✧ ✧

**100 гадоў таму ў в.Цяцеркі нарадзіўся вядомы беларускі этнограф, грамадскі дзеяч Мар'ян Пецюкевіч.**

✧ ✧ ✧

**100 гадоў таму Станіслаў Нарбут заняў пасаду Браслаўскага сельскага лекара.**

✧ ✧ ✧

**100 гадоў таму пабудавалі Опсаўскі сядзібны комплекс.**

✧ ✧ ✧

**100 гадоў таму ў Браславе арганізавана добраахвотная пажарная дружына. Старшынёй праўлення быў абраны Ст.Нарбут.**

✧ ✧ ✧

**95 гадоў таму М.Паўлоўскім даследванне возера Дрысвяты.**

✧ ✧ ✧

**85 гадоў таму нарадзіўся вядомы браслаўскі лекар Фердынанд Леўша.**

✧ ✧ ✧

**85 год таму ў Друі адбыўся з'езд батракоў Браслаўшчыны.**

✧ ✧ ✧

**85 год таму на Браслаўшчыне і Дзісеншчыне адбылося сялянскае паўстанне супраць бальшавіцкай улады.**

✧ ✧ ✧

**80 гадоў таму пры Друйскім кляштары марыянаў заснавана гімназія.**

✧ ✧ ✧

**75 год таму ў Опсе адбыўся вялізны пажар.**

✧ ✧ ✧

**75 год таму на Браслаўшчыне адбыўся голад.**

✧ ✧ ✧

**75 год таму завершана будаўніцтва Дрысвяцкага касцёла.**

✧ ✧ ✧

**70 гадоў таму нарадзіўся заслужаны настаўнік Беларусі Іван Кожар.**

✧ ✧ ✧

**70 гадоў таму ў Відзах адбылося адкрыццё аднаўленай мячэці.**

✧ ✧ ✧

**65 год таму выйшаў першы нумар раённай газеты "Звязда" (цяперашняя "Браслаўская звязда").**

✧ ✧ ✧

**60 год таму пачаў працу Браслаўскі народны тэатр.**

✧ ✧ ✧

**60 год таму Браслаўшчына была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

✧ ✧ ✧

**60 год таму гераічна загінулі Героі Савецкага Саюза Аляксей Жданаў і Іван Валчкоў.**

✧ ✧ ✧

**60 год таму на Браслаўшчыне былі сфарміраваны дзве польскія партызанскія брыгады Арміі Краёвай.**

✧ ✧ ✧

**60 год таму арганізаваны Браслаўскі камбінат прамысловых тавараў.**

✧ ✧ ✧

**50 год таму арганізваны Браслаўскі гародніна-сушыльны завод (сучасны харчовы камбінат).**

✧ ✧ ✧

**50 год таму арганізавана Відзкае ПТВ №169.**

**50 год таму арганізавана Браслаўская аўтабаза.**

✧ ✧ ✧

**40 год таму ўстаноўлены помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в.Зарачча.**

✧ ✧ ✧

**30 год таму ўстаноўлены помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у г.п.Відзы.**

✧ ✧ ✧

**25 гадоў таму пабудаваны адміністрацыйна-культурны комплекс у в.Казяны.**

✧ ✧ ✧

**25 гадоў таму ўзведзены новы будынак Браслаўскай пошты.**

✧ ✧ ✧

**20 гадоў таму заснаваны Браслаўскі гістарычна-краязнаўчы музей.**

✧ ✧ ✧

**15 гадоў таму пачаў функцыяніраваць новы будынак Браслаўскай паліклінікі.**

✧ ✧ ✧

**15 гадоў таму была праведзена І-я навукова-краязнаўчая канферэнцыя "Браслаўскія чытанні".**

✧ ✧ ✧

**10 гадоў таму арганізавана Браслаўская гімназія.**

*Каляндар складзены на падставе матэрыялаў Тамары Алексій (Браслаўская СШ№1), гісторыка-краязнаўчага гуртка Відзкай СШ, вучняў Дрысвяцкай СШ, Слабодскай СШ, Купчэльскай БШ, Опсаўскай СШ, гуртка "Краязнавец" (Браслаўская СШ№2), клубаў "Зямляне" (Грытунская СШ), "Друіды" (Друйская СШ).*




*Пераможцы конкурсу на складанне календароў памятных дат з гісторыі Браслаўшчыны вучаніцы 9 класа Браслаўскай СШ№1 Тамары Алексій удалося скласці найбольш поўны пералік падзей, юбілейныя даты якіх прыпадаюць на 2004 г. Амаль да кожнай даты падрыхтаваны невялікія нарысы. Сур'ёзна папрацавала Т.Алексій і над знешнім выглядам календара.*

*Увазе чытача прапануем фрагменты працы-пераможцы.*

## 200 гадоў назад была пабудавана капліца Маці Божай у Завер'і

Мураваная капліца Маці Божай у Завер'і ўзведзена на могілках у 1804 г. Капліца - невялікае па аб'ёму культавае збудаванне, якое не мела асобнай прасторы для алтара, у большасці сваёй яе ўзводзілі на могілках для ўтрымлівання скляпоў-крыптаў пры сямейных пахаваннях. Асабліва многа будавалі іх у перыяд абмежаванняў на ўзвядзенне храмаў.



## 180 гадоў назад быў пабудаваны касцёл Маці Божай у Браславе

Касцёл Маці Божай у Браславе

Храм узведзены ў 1824 г. пры ксяндзы Навіцкім з бутавага каменю. Папярэдні драўляны будынак згарэў разам з мястэчкам у час барацьбы паўстанцаў з царскім атрадам у маі 1794 г. Больш двух дзесяцігоддзяў набажэнствы праходзілі ў часова прыстасаваным памяшканні. Ад касцёла 1824 г. захаваліся фрагменты паўночнай і ўсходняй сцен. Яны выкананы ў тэхніцы разынкавай муроўкі. Тут можна ўбачыць не толькі адвольнае размяшчэнне дробных камяньчыкаў, але і шматлікія салярныя матывы. Спецыялісты налічылі 29 адлюстраванняў сонца. Верагодна, іх з'яўленне ў дэкоры храма невыпадкова, а мае пэўны сакральны сэнс. Наогул, муроўка касцёла выглядае вельмі прыгожа. Нсўзабаве, пасля будаўніцтва Браслаўскі касцёл перастаў задавальняць патрэбы каталіцкай парафіі, якая была адной з самых вялікіх у Ковенскай губерні. Як расказваюць старажылы, царскія ўлады не дазволілі будаваць новы храм. Таму касцёл пашырылі, а паўночная і ўсходняя сцены старога будынка ўвайшлі ў склад новага. Перабудова касцёла

была завершана ў 1897 г. Храм набыў іншае архітэктурнае аблічча. Цяпер гэта трохнефавы прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам, узведзены з бутавага каменю і чырвонай цэглы. Сцены зроблены з вялізных камянёў, у якіх адна грань мае плоскую паверхню. Аконныя праёмы, карнізы, шэраг архітэктурных дэталяў зроблены з чырвонай цэглы. Галоўны фасад упрыгожвае трох'ярусная вежа з цэглы, завершаная шатром і па баках ураўнаважаная дэкаратыўнымі васьміграннымі вежачкамі. З элеметаў дэкору зроблены контрфорцы, стральчаты партал, аркатра, нішы, карнізныя паясы. Бакавыя сцены рытмічна прарэзаны аконнымі праёмамі з паўцыркульнымі завяршэннямі. Алтарная сцяна, якая не мае апсіды, аздоблена круглым акном. Інтэр'ер храма неаднойчы перарабляўся. На хорах – арган пачатку XX ст. У галоўным алтары захоўваецца абраз Маці Божай Браслаўскай – самай шануемай каталіцкай святыні Браслаўшчыны.



## 25 гадоў будынку пошты

У 1979 г. напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет СССР ПМК-145 здаў новы двухпавярховы будынак пошты. Цесна і няўтульна было ў старым, прыстасаваным памяшканні. А з уводам у эксплуатацыю новага непараўнальнага будынка палепшыліся ўмовы працы: пашырыліся рабочыя плошчы, атрымана новае, больш дасканалае, абсталяванне. У новым будынку ёсць асобныя памяшканні для ўсіх служб: сартыроўкі газет і часопісаў, зала для паштальёнаў і інш. Больш падрабязна аформлены даведчыя матэрыялы ў выглядзе маляўнічых вітрын і рэклам, да паслуг кліентаў – новая прыгожая мэбля.



## 25 гадоў назад пабудаваны адміністрацыйна-культурны комплекс в. Казяны

У 1979 г. завершана будаўніцтва адміністрацыйна-культурнага комлекса ў Казянах. У новым прыгожым будынку размясціўся выканкам сельскага савета, кантора калгаса "Гвардыя". Агульныя сходы калгаснікаў, масавыя культурныя мерапрыемствы таксама будуць праходзіць у глядзельным зале на 300 месцаў.



## 25 гадоў будынку ашчаднай касы па вуліцы Леніна

У 1979 г. у Браславе па вул.Ленінскай МПМК-19 пачалося будаўніцтва ашчаднай касы. Усе работы выконвала брыгада будаўнікоў у складзе 7 чалавек, якую ўзначальваў М.І.Апанчонак. На першым паверсе – аперацыйная зала, кабінет загадчыка, падсобныя памяшканні. На другім – бухгалтэрыя, архівы, машыннавылічальнае бюро і іншыя кабінеты.



## 25 гадоў гандлёваму цэнтру в.Дрысвяты

У 1979 г. добры падарунак на пярэдадні Кастрычніка зрабілі будаўнікі МПМК-19 калектыву саўгаса "Авангард". Яны поўнасцю закончылі аддзелачныя работы і перадалі заказчыку ключы ад прыго-жога будынка гандлёвага цэнтра. У тыпавым прасторным памяшканні размясціліся: магазін з аддзеламі харчовых і прамысловых тавараў, сталоўка на 5 пасадачных месц. У ёй змаглі харчавацца рабочыя саўгаса, жыхары в.Дрысвяты. У напружаны перыяд палявых работ тут рыхтавалі гарачыя стравы для ўдзельнікаў сяўбы, уборкі ўраджаю.



## 15 гадоў будынку паліклінікі

У верасні 1989 г. паліклініка справіла наваселле. Гэтай падзеі доўга чакалі браслаўчане. І вось нарэшце яна адбылася: раённая паліклініка сустрэла першых наведвальнікаў. У прыгожым трохпавярховым будынку размясцілася дзіцячая і жаночая кансультацыі, стаматалагічны кабінет і зубапратэзная майстэрня, пакоі для рэгістрацыі і хірургічны кабінет, апошні з аперацыйным блокам, працэдурны пакой. Урачы іншых спецыяльнасцей: неўрапатолаг, псіхіятр, кардыёлаг, траўматолаг, уролаг, анколаг, артальмолаг, лор – таксама атрымалі ў сваё распараджэнне прасторныя і добраабсталяваныя памяшканні.

У новай паліклініцы ўстаноўлена і новае дыягнастычнае абсталяванне. Гэта: мамограф, кардыёграфы, флюрографы і інш. Узросшая тэхнічная аснашчанасць дазволіла медыкам лепш дыягна-ставаць хваробы, а значыць і больш эфектыўна арганізаваць лячэбны працэс.

## 210 гадоў назад паплечнік Т.Касцюшкі Т.Ваўжэцкі пачаў паўстанне 1794 г. на тэрыторыі Браслаўшчыны

### Тамаш Ваўжэцкі

Нарадзіўся 7 сакавіка 1753 г. Называюць розныя месцы нараджэння Т Ваўжэцкага - Відзы ці Мейшты (цяпер Ігналінскі раён), але безумоўна адно – гэта была тэрыторыя гістарычнага Браслаўскага павета. Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Відзаўскай сзуіцкай школе. Тамаш ажаніўся рана. Яго жонка была Юзэфа Пац – дачка пісара ВКЛ Міхала Паца, але яна неўзабаве памерла. Пасля смерці жонкі ён застаўся ў Ковенскім павеце, дзе знаходзіўся маёнтак жонкі. Там ён займаў шэраг пасад. Яго некалькі разоў выпучалі дэлегатам у сойм ад Ковенскага павета. Разам з суддзёй Станіславам Мірскім мясцовая шляхта выбірае яго на знакаміты чатырохгадовы Сойм 1788–1792 гг., які адыграў важную ролю ў гісторыі Польшчы, Літвы і Беларусі. 169 разоў браў слова Т.Ваўжэцкі на сойме. 16 красавіка 1794 г. Т.Ваўжэцкі пачаў выступленне на Браслаўшчыне, у Відзах, узброіўшы на ўласныя грошы 300 чалавек. 12 мая 1794 г. Найвышэйшая рада прызначае Т.Ваўжэцкага камандуючым узброенымі сіламі паўстанцаў у Жмудзі. Потым Т.Касцюшка назначыў яго членам Найвышэйшай нацыянальнай рады і прысвоіў званне генерал-лейтэнанта. 14 кастрычніка 1794 г. Ваўжэцкі атрымаў весткі аб тым, што Касцюшка трапіў у палон і Найвышэйшая рада выбрала яго камандуючым войскамі паўстанцаў. 16 лістапада Т.Ваўжэцкі прыняў умовы капітуляцыі, прапанаваныя А.Суворавым. Ваўжэцкі трапіў у Петрапаўлаўскую крэпасць. Калі рускім імператарам стаў Павел І, усе паўстанцы былі амніставаны. Ваўжэцкі вяртаецца на радзіму. У пачатку вайны 1812 г. ён узначальваў камітэт у Літве па забяспячэнні расійскай арміі харчаваннем.

Памёр 5 жніўня 1816 г. у Відзах-Лаўчынскіх, быў пахаваны ў Відзах.



## 205 гадоў з дня нараджэння славутага мастака Яна Траяноўскага

### Ян Траяноўскі

Нарадзіўся 6 мая 1799 г. Яго бацька пасля паўстання 1794 г. быў упраўляючым маёнтка графа Мануццы ў Бяльмонтах, там і прайшлі дзіцячыя гады Яна. Славуты мастак адрозніваўся вальнадумствам, атэістычнымі поглядамі. Па даносу ксяндза Скібінскага ўлады распачалі следства супраць Яна Траяноўскага. Быў асуджаны на 1 год пакаяння ў Віленскі даміціканскі кляштар. Яму забаранілі выезд за мяжу. Пасля Ян Траяноўскі пасяляецца на Браслаўшчыне, дзе непадалёк ад Бяльмонт набывае невялікі маёнтак. Аўтар палоцен на гістарычную тэму: "Баляслаў смелы ў момант вынясення яму папскага праклёну", "Вітаўт прымае татарскіх і ордэнскіх палоннікаў" і інш.

## 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага этнографа Мар'яна Іосіфавіча Пецюкевіча

### Мар'ян Іосіфавіч Пецюкевіч

Нарадзіўся ў 1904 г. у в.Цяцеркі ў сялянскай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў у народным вучылішчы і самастойна. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, Віленскі універсітэт. У розныя часы працаваў у бібліятэках Інстытута Усходняй Еўропы імя Урублеўскіх у Вільні, рэдактар у 1928-1935 гг. часопіса "Шлях моладзі", змяшчаў у ім свае творы пад псеўданімам Марвіч. З кастрычніка 1940 г. – дырэктар Беларускага музея імя І.Луцкевіча. У гады другой сусветнай вайны – школьны інспектар, выкладчык медыцынскага інстытута. 27.03.1949 г. арыштаваны і з сям'ёй высланы ў Краснаярскі край. У сакавіку 1953 г. за "нацыяналізм" прыгавораны на 25-гадовае зняволенне. Да 1956 г. адбываў пакаранне ў г.Варкуце. У тым жа годзе выехаў да сям'і ў Польшчу. Да лістапада 1970 г. працаваў у Этнаграфічным музеі ў г.Торунь. Памёр 13.09.1983 г. у Торуні.



## 100 гадоў сядзібнаму комплексу ў в. Опса

### Сядзіба Плятэраў у Опсе

У 1904 годзе скончана будаўніцтва мураванага палаца спраектаванага архітэктарам Целяжынскім з Панявежа.

Сядзібны комплекс няблага захаваўся да нашых дзён. Яго цэнтрам з'яўляецца мураваны палац, размешчаны побач з возерам. Галоўны фасад будынка звернуты на ўсход, па баках ён фланкіраваны двухпавярховымі рызалітамі. Пасярэдзіне аднапавярховага асноўнага аб'ёма знаходзіцца галоўны ўваход, аформлены порцікам з дзвюма калонамі. Дах палаца першапачаткова быў гонтавы, складаны, па баках ад порціка меліся люкарны. З боку возера зроблена адкрытая



тэраса, да якой з палаца вялі шкляныя дзверы. Злева знаходзіўся флі-гель з бутавага каменю. Побач размешчаны піўніца з чырвонай цэглы, якая служыла для захавання напіткаў, малака, садавіны, гародніны. Па правы бок ад палаца знаходзяцца будынкі стайняў, вазоўні, хлявоў, свіранаў. Перад палацам размяшчаўся парадны партэр з газонам і кветнікамі, па баках якога пасаджаны групы дрэў з ялін і сібірскай піхты, да нашага часу захаваўся дуб-"патрыярх" (22 м). З усходу сядзі-ба абнесена фігурным штыкетнікам, умацаваным слупамі з бутавага каменю, з паўднёвага боку абмежавана ручаём, праз які перакінуты аднаарачны мост.



## 70 гадоў з дня нараджэння Заслужанага настаўніка БССР І.І.Кожара

### Кожар Іван Іванавіч

Нарадзіўся 3 студзеня 1924 г. у в.Аленавічы Талачынскага раёна. Дабраахвотна пайшоў у партызанскую брыгаду "Гроза". У сакавіку 1942 г. быў паранены. Пасля вызвалення ў 1944 г. быў камісаваны. Кіраваў калгасам ў в.Косава Талачынскага раёна (1946 г.). З 1947 г. да 1949 г. вучыўся ў фізкультурным тэхнікуме ў Мінску. З 1949 г. да 1952 г. працаваў настаўнікам фізкультуры ў Глыбоцкім педвучылішчы. У 1952 г. пераведзены на работу ў СШ №1 г.Браслава, дзе працаваў да пенсіі (1984 г.).



## 30 гадоў назад З.Я.Кожар атрымала званне Заслужанага настаўніка БССР

### Кожар Зінаіда Яўгенаўна

Нарадзілася 4 лютага ў в. Лапішкі (зараз Пастаўскі раён). У 1951–1952 гг. працавала ў Глыбоцкай вячэрняй школе. У 1952 г. (у сувязі з пераводам мужа) пераехала ў г.Браслаў. Працавала настаўніцай пачатковых класаў СШ №1 г.Браслава. Была дэпутатам Вярхоўнага Савета з 1975 г. да 1979 г.



## 20 гадоў назад М.А.Сцяпанавай было прысвоена званне Заслужанага настаўніка БССР

### Сцяпанава Міра Адамаўна

Нарадзілася 11 студзеня 1938 г. у горадзе Браславе. Вучылыся ў сяміга-довай школе. У 1952–1956 гг. скончыла Лепельскае педвучылішча. З 15 жніўня 1956 г. пачала працаваць у Талочынскім раёне ў малакамплектнай школе. У 1957 г. пры-ехала ў Браслаўскі раён, працавала ў сельскіх школах. З 1971 г. да 1993 г.

## 130 гадоў з дня нараджэння вядомага савецкага гісторыка Уладзіміра Мікалаевіча Беняшэвіча

### Уладзімір Мікалаевіч Беняшэвіч

Нарадзіўся 9 (21) жніўня 1874 г. у м. Друя ў сям'і прыстава. З залатым медалём скончыў першую Віленскую гімназію і юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Слухаў лекцыі ў Лейпцыгскім, Берлінскім і Гейдэльбергскім універсітэтах, вывучаў грэчаскія рукапісы юрыдычнага зместу, помнікі армянскай, грузінскай і славянскай пісьменнасці. З'яўляўся прыват-дацэнтам, а з 1909 г. прафесарам Пецярбургскага універсітэта, выкладаў у многіх навучальных установах. Пасля рэвалюцыі 1917 г. адначасова працаваў у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы і ў шэрагу навуковадаследчых устаноў.

Вялізны ўклад у развіццё навукі ўнёс і як рэдактар часопіса "Обозрения трудов по славяноведению" у 1908–1913 гг. Беняшэвіч аўтар звыш 100 прац. Ён ганаровы доктар права Афінскага нацыянальнага універсітэта, член-карэспандэнт Страсбургскай АН, Баварскай АН у Мюнхене, Прускай АН у Берліне. У 1928 г. выбраны на пасаду акадэміка АН СССР. За "шпіёнскую дзейнасць" камісіяй НКУС асуджаны да расстрэлу. Вырок прыведзены ў выкананне 27.01.1938 г. на Левашоўскіх пустках каля Ленінграда. Рэабілітаваны ў 1958 г.

## 185 гадоў з дня нараджэння Яна Паплонскага

### Паплонскі Ян

Нарадзіўся 21 лістапада 1819 г. у м.Відзы ў заможнай шляхецкай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Відзах, з 1832 г. – у Вільні, ў гімназіі. У 1840 г. стаў кандыдатам філасофіі. У 1853-1859 гг. – на адміністрацыйнай пра-цы: з'яўляўся цэнзарам Варшаўскага камітэта цэнзуры, служыў у куратары Варшаўскай навучальнай акругі, выконваў абавязкі дырэктара школы выяўленчага мастацтва і музыкі. У 1859 - 1867 гг. выкладаў у Варшаўскай Духоўнай Акадэміі мову і літаратуру, з 1864 г. – прафесар Галоўнай школы, з 1869 г. – прафесар Варшаўскага універсітэта. Асноўнай тэмай навуковай дзейнасці Я.Паплонскага быў вузкі раздзел мовазнаўства і параўнанне слоў у розных мовах. У гонар прызнання заслуг ён выбіраўся членам-карэспандэнтам таварыства гісторыі і старажытнасці Расіі і Масквы, Парыжскай АН. Памер 28.11.1885 г., пахаваны ў г.Варшаве.

## Відзскае ПТВ-169

У далёкім 1944 г. ў Опсе была адкрыта сельскагаспадарчая школа, якая рыхтавала трактарыстаў, так неабходных для аднаўлення сельскай гаспадаркі раёна і вобласці. З 1 студзеня 1954 г. яна па рашэнню Савета Міністраў, была перададзена ва ўпраўленне прафтэхадукацыі. Ёй надалі статут вучылішча і прысвоілі парадкавы №32. Гэты дзень і з'яўляецца днём заснавання ПТВ.

1 студзеня 1960 г., у сувязі з ліквідацыяй Відзскага раёна, будынкі райкома партыі, райвыканкама, рэдакцыі газеты былі перададзены СПТВ-32 і ў канцы 1960 г.вучылішча пераязджае з Опсы ў г.п.Відзы. За кароткі час (1960-61 гг.) была праведзена рэканструкцыя адміністратыўных будынкаў у вучэбныя корпусы, г.зн. класы і лабараторыі. Адначасова, рашэннем Браслаўскага райвыканкама, вучылішчу было выдзелена 150 га ворнай зямлі для стварэння вучэбнай гаспадаркі. У 1961 г. ў в.Непалаты былі пабудаваны фермы, кармакухня, памяшканні складоў. Вучэбная гаспадарка стала базай для атрымання практычных навыкаў, падмогай для паляпшэння харчавання навучэнцаў, а таксама дала сродкі для набыцця новай тэхнікі. Працягвалася праца па пашырэнню вучылішча, яго майстэрань, вучэбных кабінетаў. У 1976 г. пабудаваны інтэрнат на 400 месцаў, сталовая, жылы 24-кватэрны дом для выкладчыкаў, спартыўная і актавая залы, адміністрацыйны корпус. У 1984 г.вучылішчу ўказам Дзяржаўнага камітэта па прафтэхадукацыі прысвоены парадкавы №169.

За 50 гадоў існавання вучылішча падрыхтавана 18359 працаўнікоў сельскай гаспадаркі па наступных спецыяльнасцях: трактарыст-машыніст, вадзіцель, механік-камбайнер, майстар-наладчык, каваль, электрагазазваршчык, механізатар жывёлаводчых ферм, повар III разрада, гаспадыня сялібы. У 1986 г.вучылішча прымаюць у асацыяцыю па сістэме бесперапыннай адукацыі: ПТВ – ССВУ – ВНУ. Падрыхтавана і паступілі ў тэхнікумы і ВНУ з сельскагаспадарчым профілем 54 выпускнікі вучылішча. За высокія паказчыкі ў працы Відзскае ПТВ-169 узнагароджана шматлікімі Ганаровымі граматамі Савета Міністраў БССР.

***З календара Відзкай СШ***

## 50 гадоў Браслаўскаму харчоваму камбінату

(былы Браслаўскі гародніна-сушыльны завод)

Даў першую прадукцыю ў 1954 г. У тыя часы аснову вытворчасці складалі: напоі, сушаная бульба і цыбуля, крухмал. За апошнія гады на заводзе адбыліся значныя змены: пабудаваны рыбны цэх, наладжаны тэхналогіі па выпуску мясных і пладова-гародніных кансерваў. Па стану на 2003 г. прадпрыемства выпрабляла каля 60 відаў рознай прадукцыі, а вытворчасць склала больш за 5 мільёнаў умоўных бляшанак. Вялікім попытам у браслаўчан, жыхароў Беларусі карыстаюцца кансервы рыбныя і гародніныя, сокі, павідла яблычнае, мясная тушонка. Частка прадукцыі экспартуецца ў Расію. Зараз на браслаўскім харчовым камбінеце працуе 265 чалавек. Узначальвае камбінат Даўжэнка Д.А.

***З календара гуртка «Краязнаўца» Браслаўскай СШ№2***

## 425 гадоў таму назад Браслаў наведаў кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый



Стэфан Баторый (1533–1586 гг.) – вялікі князь літоўскі і кароль польскі, які паходзіў са старажытнага шляхецкага роду. У гісторыю Рэчы Паспалітай ён увайшоў як удалы палкаводзец, рэфарматар, тонкі дыпламат і мецэнат навукі. У час Лівонскай вайны ў 1579 г. Стэфан Баторый узначаліў паход па вызваленню старажытнага Полацка, які 19 год знаходзіўся пад уладай маскоўскіх войск. Пасля вяртання Полацка ўладар праз Дзісну, Друю і Браслаў накіраваўся ў Вільню. У Браславе Стэфан Баторый спыніўся 26 верасня 1579 г. Тут кароль меў магчымасць пазнаёміцца з некаторымі мясцовымі справамі. Ён адзначыў подзвіг браслаўскага шляхціча ротмістра Барыса Жабы, які са сваёй ротай "с кровопролитием немалым и шкодою здоровья своего" выбіў непрыяцеля з Дынабурга (сучасны Даўгаўпілс). Кароль загадаў тагачаснаму старасце браслаўскаму і начальніку замка Дзяльніцкаму выдзеліць Б.Жабе 74 валокі зямлі і вёску Абаб'е. Адзначаны былі і дрысвяцкія баяры Пашавічы. Ім кароль пацвердзіў даўнія прывілеі. У гэты дзень у Браславе кароль падпісаў зварот да абывацеляў краіны, звязаны з фінансавымі пытаннямі.

Пры лагеры Стэфана Баторыя знаходзіўся вядомы мастак і картограф Станіслаў Пахалавіцкі. Браслаў і наваколле ён адлюстраваў на карце "Вопіс Полацкага княства", складзенай у 1579 г. і выгравіранавай у Рыме праз год. Відавочна, што картографа ўразілі водныя абшары вакол мястэчка. Ён намаляваў Браслаў на востраве пасярод аднаго вялізнага возера. З возера выцякае рака Друйка, якая неўзабаве ўпадае ў Дзісну. Сярод выданняў XV ст. карта С.Пахалавіцкага найбольш дакладна адлюстроўвала наваколле Браслава.

***З календара гуртка «Краязнаўца» Браслаўскай СШ№2***

## 60 гадоў Браслаўскаму народнаму тэатру

Браслаўскі народны тэатр працуе пры гарадскім Доме культуры. Арганізаваны ў 1944 годзе як тэатральны гурток. У 1961 годзе атрымаў званне народнага. Кіраўнікі:

- В.Галкін – 1948 – 1952 гг.
- А.Ламберт – 1953 – 1957 гг.
- В.Галкін – 1958 – 1972 гг.
- У.Сівіцкі – 1972 – 1974 гг.
- Г.Міхайлава – 1974 – 1977 гг.
- Т.Міхайлава – 1978 – 1984 гг.
- І.Крот – 1985 – 1994 гг.
- Т.Міхайлава – 1994 – 1997 гг.
- В.Руткоўскі – 1998 – 2000 гг.



В.Галкін

Пачынаючы з 2001 г. галоўным рэжысёрам тэатра з'яўляецца Каспаровіч А.І. Былі здзейснены пастаноўкі п'ес беларускіх і рускіх аўтараў: "Пінская шляхта" В.Дуніна-Марцынкевіча, "Паўлінка" Я.Купалы, "Хто смяецца апошнім" К.Крапівы, "Трыбунал", "Зацюканы апостал" А.Макаёнка, "Мікітаў лапаць" М.Чарота, "Жаніцьба" М.Гогаля. Сярод пастановак апошніх гадоў: "Мудрамер" М.Матукоўскага, "Модны шляхцюк" К.Каганца, "Правінцыялкі" Я.Стэльмаха, а таксама п'есы, напісаныя І.Кратом "Мужчына за грошы" і "Абраз". Зараз з вялікім поспехам на сцэне народнага тэатра ідзе п'еса Ф.Булякова "Выходзілі бабкі замуж". Браслаўскі народны тэатр з'яўляецца дыпламантам рэспубліканскіх фестываляў самадзейнага мастацтва (1967 і 1972 гг.), І-га абласнога фестываля народных тэатраў у Браславе (1992 г.). У 2002 г. тэатр стаў лаўрэатам фестываля "Тэатральная вясна" ў Талачыне. У розных спектаклях Браслаўскага тэатра ў 2003 г. былі задзейнічаны 15 самадзейных акцёраў.

***З календара гуртка «Краязнаўца» Браслаўскай СШ№2***

## 50 гадоў аўтабазе №18 (цяпер–ААТ «Аўтатранспартнае прадпрыемства № 18»).

Аўтабаза заснавана 5 жніўня 1954 г. Першым дырэктарам яе быў П.Я.Кучынскі. У той час на прадпрыемстве парк налічваў 16 аўтамашын і 51 чалавек абслугоўваючага персанала. У 1958 г. з'явіліся першыя 10 аўтобусаў, якія пачалі абслугоўваць горад, раён і тры міжгародныя маршруты.

Зараз на прадпрыемстве працуе 143 чалавекі, парк складае 31 грузавы аўтамабіль і 41 аўтобус. Аўтатранспартнае прадпрыемства абслугоўвае аўтобусныя маршруты па гораду Браславу, а таксама міжгародныя маршруты: Мінск, Віцебск, Полацк, Наваполацк, а таксама міжнародны маршрут Браслаў – Даўгаўпілс. На прадпрыемстве адкрыты сучасны пункт тэхнічнага кантролю.

***З календара гуртка «Краязнаўца» Браслаўскай СШ№2***

## Капліца ў Відзах

Да 60-х гадоў XX ст. ў пачатку Відзаў стаяла невялікая капліца. Яна была з чырвонай цэглы, атынкована і пабелена. Унутры капліцы стаяла распяцце. Але па ўказанню ўладаў увосень 1966 г. капліца была разбурана. На яе месцы былі пасаджаны кусты і разведзены кветнікі. Аднак расліны не сталі ўпрыгажэннем тэрыторыі, а ператварыліся без дагляду ў непралазныя зараслі. Паказальна, што разбуральнікі капліцы члены партыі Фёдараў Сцяпан, Кулiненка Аляксандр і Тарасевіч Станіслаў памерлі несваечасова. Так, па перакананню вернікаў, яны былі пакараны за здзейснены вандалізм.

Сучасная капліца ўрачыста асвенчана 8 верасня 2002 г. Будаўніцтва яе распачата пад кіраўніцтвам ксяндза Казіміра Гваздовіча, а завершана Альфрэдам Пяхотай. Скульптар з горада Вільнюса, у мінулым жыхар г.п.Відзы Эдуард Падбярозкін, стварыў фігуру Дзевы Марыі - заступніцы, якая прызвана сустракаць і праводзіць падарожнікаў, якія праязджаюць праз пасёлак.

*З календара Відзкай СШ*

## Леўша Фердынанд Іванавіч (1909–1986)

85 гадоў з дня нараджэння

Гістарычная даведка.

Леўша Фердынанд Іванавіч нарадзіўся ў г.Рызе ў 1909 г. Яго маці Сівіцкая Ганна Іванаўна – нараджэнка Браслаўшчыны. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Працаваў урачом у Друі. З 1941 года працаваў у г.Браславе хірургам.

Узнагароджаны вышэйшым хірургічным ордэнам Пірагова.Пахаваны ў в.Слабодка.

Леўша Фердынанд Іванавіч нарадзіўся ў 1909 г. ў г.Рызе. Бацька Фердынанда Іванавіча – Леўша Іван Іванавіч адмовіўся ад працы на зямлі і паехаў у Рыгу. Там ён працаваў у нямецкага прамыслоўца, займаўся гандлем леса. Маці Фердынанда Іванавіча – Сівіцкая Ганна Іванаўна – нараджэнка тутэйшых месцаў. У 1913 г. яго бацьку адправілі купляць лес у порт Архангельск, а у хуткім часе на Урал у г.Екацярынбург, дзе Фердынанд хадзіў у школу. Ён вучыўся і сябраваў з вядомым гісторыкам, які займаўся гісторыяй Масквы і Русі, – Дзягелевым. Пасля вяртання з Урала, вывучыўшы польскую мову, ён пасяхова здаў конкурсныя іспыты ў Друйскую гімназію. Пасля заканчэння гімназіі ў 1931-1932 гг. паступіў на юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Бацька быў супраць будучай прафесіі сына.

У 1933 г. паступіў на медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. Скончыў у 1936-1937 гг., прайшоў ардынатуру па хваробах вачэй, хірургіі. Два гады служыў у польскай арміі. Потым некаторы час працаваў у Друі. У 1939 г., у сувязі з нападам гітлераўскіх войск на Польшчу, на пасадзе ўрача быў прызваны ў польскую армію. Па дарозе на фронт разам з іншымі польскімі афіцэрамі быў захоплены ў палон Чырвонай Арміяй каля г.Брэста. Знаходзіўся ў палоне ў Катынскіх лясах ля г.Смаленска, дзе было расстраляна шмат польскіх афіцэраў. Яму ўдалося збегчы. Вярнуўся ў бацькоўскую хату ў в.Тулюткі. Пра гэта стала вядома НКУС, і было дадзена прадпісанне аб высяленні сям'і, аднак шчаслівы выпадак дапамог застацца сям'і не рэпрэсіраванай. Захварэла жонка начальніка НКУС. Іншага ўрача не было. Хворая была агледжана, пастаўлены правільны дыягназ, праведзена хірургічнае ўмяшальніцтва – і жанчына выздаравела. Да 1942 г. працаваў у Браславе хірургам. У гады вайны, знаходзячыся на акупіраванай тэрыторыі, працягваў выконваць свае прафесійныя абавязкі. У вайну аказваў дапамогу мясцоваму насельніцтву, меў сувязь з партызанамі, яўрэйскім гета. Выпадкова даведаўшыся аб ліквідацыі Глыбоцкага гета, ён папярэдзіў калег і выратаваў жыццё многіх людзей.

Пасля вайны ён знаходзіўся пад наглядам НКУС, яму было забаронена займацца ўрачэбнай дзейнасцю. Але былі сабраны дакументы, якія пацвердзілі дапамогу, якую аказваў Фердынанд Іванавіч партызанам. Яму было дазволена працаваць у Браславе, дзе ён і прапрацаваў да канца свайго жыцця. Ён заўсёды быў адданы справе лячэння хворых. Яму прапаноўвалі працаваць у Польшчы, у многіх клініках Мінска, выкладчыкам хірургіі ў Віцебскім мединстытуце. Але ён любіў Браслаўшчыну, родныя Тулюцкія месцы, мясцовае насельніцтва.

Фердынанд Іванавіч быў узнагароджаны вышэйшым хірургічным ордэнам Пірагова, меў фундаментальныя веды па латыні, вывучаў гісторыю Браслаўшчыны. Больш за пяцьдзесят гадоў аддаў ён медыцыне, быў галоўным урачом раёна, загадчыкам хірургічнага аддзялення ЦРБ, выканаў не адну тысячу складаных аперацый. Свае веды і багацейшы вопыт пастаянна перадаваў маладым урачам. Памёр у 1986 годзе, пахаваны на Слабодкаўскіх могілках.

Леўша Андрэй, 1994 г.

*З календара Слабодскай СШ*

## Падбярозкін Эдуард Мікалаевіч

Нарадзіўся Эдуард Мікалаевіч у вёсцы Прасвет Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці ў 1947 годзе ў сям'і настаўніка. У хуткім часе сям'я пераехала ў г.п.Відзы Браслаўскага раёна. Эдуард скончыў 7 класаў Відзскай школы, а потым прафтэхвучылішча. Адслужыў у арміі. Пасля службы сабраў рэчы ў валізку і выправіўся ў г.Вільнюс да старэйшага брата, там паступіў у мастацкую школу. Пасля яе заканчэння застаўся жыць і працаваць у сталіцы Літвы.

Таленавітага беларуса заўважылі спецыялісты. Яго запрасілі прыняць удзел у рэстаўрацыйных працах. У шматлікіх святынях Вільнюса гібела мастацкая спадчына многіх эпох. Эдуард вяртае да жыцця шэдэўры, што развальваліся, страцілі колер, стварае ўласныя скульптуры, бо яшчэ з ранняга дзяцінства ён праяўляў схільнасць да малявання і лепкі. Усё больш і больш часу аддае малады мастак манументальнаму мастацтву і яго рэдкае дараванне скульптара ацанілі людзі. Пачалі паступаць заказы з Польшчы, Германіі, Скандынаўскіх краін, Украіны. Для Віленскага касцёла зрабіў вялікі алтар "Тайная вячэра". Шмат скульптур стварыў Падбярозкін для храмаў Беларусі (Маладзечна, Мінск, Глыбокае).

Даўно марыў майстар унесці свой уклад у духоўнае адраджэнне роднай зямлі. Па заказу зрабіў вялікае распяцце для Відзскага касцёла, скульптуру Дзевы Марыі для аднаўленай капліцы, скульптуру Божай Маці ў в.Белая. У перспектыве Эдуард Мікалаевіч плануе выканаць цэлы ансамбль скульптур для Відзскага касцёла. Скульптар размаўляе на добрай беларускай мове, ведае польскую і літоўскую мовы, падтрымлівае цесныя сувязі з Віленскім таварыствам беларускай культуры.

*З календара Відзкай СШ*

## Кутoк калекцыянера

Калекцыянер і збіральнік з Даўгаўпілса, даўні аўтар нашага выдання Мікола Паўловіч, працуючы з архівам беларускага паэта Латвіі Міколы Талеркі выявіў шэраг цікавых паштовак.

Але напачатку некалькі слоў пра Міколу Талерку. Нарадзіўся ў 1898 г. у маёнтку Дагда Дрысенскага павета Віцебскай губерні. У 20-30-я гады – актыўны дзеяч беларускага руху Латвіі, настаўнік беларускіх школ. Быў сябрам Таварыства беларускіх настаўнікаў і Беларускага навукова-краязнаўчага таварыства. Актыўна друкаваўся ў беларускай прэсе, дзе змяшчаў нататкі, допісы, вершы, фальклорныя матэрыялы. Цікава, што сярод месцаў напісання некаторых твораў, пазначаны Браслаў.

Цікавасць уяўляе серыя фотапаштовак з відамі гарадоў і мясцовасцей Беларусі. Серыя была выпушчана ў гады другой сусветнай вайны. Аўтар фотаздымкаў – славуты фотамастак Ян Булгак. Подпісы зроблены па-беларуску, нямецку, французску. Мікола Паўловіч выявіў 7 паштовак серыі: "Новы замак над Нёманам у Гродне", "Царква ў Глыбокім", "Замкавы ком у Нясвіжы", "Краявіды Наваградчыны" (2 віды), "Беразвечча. Возера Глыбокае", "Возера Дрывяты каля Браслава".

Фотапаштоўка з возерам Дрывяты ўжо неаднойчы друкавалася. Цяпер ёсць магчымасць параўнаць яе з іншымі паштоўкамі серыі.



**Возера Дрывяты каля Браслава**



**Беразвечча. Возера Глыбокае**

*Мікола Талерка*

* * *

Веру ў сьвятое збаўленьне:
Мне ідэал прыгадаў
Сьвету ўсяго абнаўленьне,
Чыстасьць таго, што стаптаў.

Гонар, сумленьне – стаптаны.
Вера змарнела за век.
У панаваньне тырана
Бога забыў чалавек.

Людзкасьць забыта, а сэрца
Юдавай поўна крыві.
Хлусу адчынены дзьверцы ...
Вось тут папраўдзе жыві!

Праўда марнее у лганьні,
Топіцца ў мутнай вадзе.
А за яе у змаганьні
Кончыш свой век у бядзе.

Пошасьць хай гэта мінае.
Хай бы і дзіўнасьці быць!
... Нашая доля такая:
Веру і гонар забыць.



**Царква ў Глыбокім**

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Пацялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)